## Ідучы на выбары, напрамак — FJN бяры

„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 5 (101) БЕЛАСТОК, 2 ЛЮТАГА 1958 г. ГОД III

ВІТАУТ САПОЦЬКА
1-шы сакратар КП ПЗПР у Гайнаўцы

## Некаторыя пытанні Гайнаўскага павета перад выбарамі

Сяляне і рабочыя Гайнаўскага павета вельмі жыва дыскутавалі над кандыдатамі ў нарадовыя рады. Агульна, адбылося тут каля 140 кансультацыйных сходаў, на якіх выбаршчыкі вылучалі кандыдатаў, карыстаючыся вялікім даверам і паважаннем.

Вельмі дакладна аналізавана вылучаныя кандыдатуры. Напрыклад: у ГРН — Кляшчэлі, выбаршчыкі звярнулі ўвагу на тое, што сярод вылучаных кандыдатаў замнога служачых з выбарчага ўчастка № 1.

Асаблівае месца ў спрэчках займала пытанне грамадскага становішча кандыдатаў. Шырокія спрэчкі і ахарактарызоўка паасобных кандыдатур дазволілі камітэту Фронта адзінства народа выбраць самых найлепшых кандыдатаў. Зменена шмат праектаваных кандыдатур: 247 асоб, выбрана з сярод насельніцтва падчас кансультацыі, што складае больш чым 1/3 праектаваных.

Спрэчкі не абмяжоўваліся да ацэнкі кандыдатаў. Асноўнай праблемай была дагэтуляшняя праца нарадовых рад і план працы на будучыню. Выбаршчыкі радзілі над тым, як палепшыць метады працы рад для павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Падчас сходаў і сустрэч з выбаршчыкамі кандыдаты не стараліся шмат чаго абяцаць. Яны супольна з насельніцтвам абмяркоўвалі, як паправіць культурны і матэрыяльны ўзровень жыцця, бяручы пад увагу існуючыя магчымасці.

У мінулым, хоць і былі некаторыя недахопы, аднак грамадскасць павета ганарыцца тым, што зроблена. Грамадскасць вельмі дацэньвае дапамогу дзяржавы. Аб гэтым сведчаць некаторыя лічбы і факты. На працягу апошніх трох гадоў электрыфікавана 26 вёсак (агульна пасля вайны электрыфікавана 65 вёсак), радыёфікавана 84 вёсак.

Гайнаўка — невялікая мясціна, пераўтвараецца ў прыгожае мястэчка, а на мейсцы драўляных дамоў вырастае штораз больш светлых, мураваных будынкаў. Грамадскасць павета дацэньваючы цяжкія абставіны ў якіх знаходзілася наша дзяржава, актыўна ўключалася ў працу — арганізавана шмат грамадскіх працоўных абавязацельстваў, грамадскіх чынаў. На працягу трох гадоў грамадскім працоўным абавязацельствам зроблена 64 кілометры дарог. Таксама грамадскім працоўным абавязацельствам рамантавана і будавана школы, асушана многа лугоў і сенажацяў. Вартасць грамадскіх працоўных абавязацельстваў склала 20 мільёнаў злоты. Дзеля таго грамадскасць Гайнаўскага павета не толькі ганарыцца сваімі ўчынкамі, яна мае магчымасць выкарыстання вялікіх рэзерваў у працы на будучыню.

### ПРАБЛЕМЫ НАШАГА ПАВЕТА

Пачнем ад вёскі. Узровень гаспадарчага жыцця вёскі значна розніцца ад узроўню жыцця вёсак у іншых паветах. Усё гэта дзеля таго, што яшчэ дагэтуль існуе тут цераспалосіца і шмат неасушаных лугоў і сенажацяў. Затым асноўнай праблемай на бліжэйшую будучыню, з'яўляецца правядзенне камасацыі і класіфікацыі зямлі, меліярацыя лугоў і сенажацяў, адрамантаванне знішчаных дарог і павышэнне культуры апрацоўкі глебы.

Другой важнай праблемай з'яўляецца павышэнне ўзроўню жыцця насельніцтва. Маецца на ўвазе шпарчэйшае развіццё жыллёвага будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы, што залежыць ад інвестыцыі пакладзеных як дзяржавай, так і намі самымі і ад калькасці будаўнічых матэрыялаў. Затым, зразумела, трэба як найбольш эканоміць уласных сродкаў, будаваць больш цагельняў (на гэта ёсць вялікія магчымасці), тады, няма сумнення, жыццё насельніцтва значна палепшыцца. Гэта праблемы, якімі новыя выбраныя радныя павінны ў першую чаргу асабліва моцна зацікавіцца.

(Працяг на стар. 2)

## СССР і ЗША падпісалі пагадненне аб культурным абмене

27 студзеня г. г. паміж СССР і ЗША падпісана пагадненне па справах культурнага абмену. У пагадненні прадугледжана абмен радыёперадачамі, тэлеперадачамі, кінофільмамі і шырокі абмен у галіне асветы, культуры і тэхнікі на бліжэйшыя два гады.

Ужо ў бліжэйшы час, як падае камюніке аб'яўленае пасля пагаднення, распачнецца рэалізацыя падпісанага. «Калі разыходзіцца аб іншыя справы, як напрыклад, аб непасрэдную камунікацыю паветранымі шляхамі Н'ю-Йорк — Масква — паведамляе камюніке — абмеркавана асноўныя пытанні ў гэтай справе і прадугледжваецца яшчэ далейшыя размовы на гэтую тэму».

Як паведамляе амерыканскі друк, падпісанне пагаднення выклікала вялікую здаволенасць ва ўсіх Злучаных Штатах.

Пачуццё здаволенасці выказаў таксама і прэзідэнт ЗША Эйзенхаўэр.

## Музей К. Каліноўскага ў Свіслачы

Як паведамляе «Літаратура і Мастацтва», нядаўна Гродзенскі абласны камітэт партыі і абласны Выканаўчы камітэт дэпутатаў працоўных прынялі рашэнне арганізаваць у Свіслачы музей К. Каліноўскага.

*УСІМ, хто прыслаў пажаданні з выпадку выйсця ў свет 100 нумара «Нівы» рэдакцыя складае вялікую падзяку.*

## У згуртаванасці наша сіла

*Народная мудрасць кажа: «Як сіла слабая, то-й доля благая». Гэта ісціна адносіцца не толькі да паасобнага чалавека, яна (як-жа-ж трапна!) падказвае напрамак і для развіцця грамадства.*

*Адсюль, калі хочам мець лепшую долю, мусім быць сільнымі, бо слабыя людзі, ці грамадства, не здолеюць пабудаваць лепшага жыцця. А жыццё ставіць нас перад строгімі выпрабаваннямі. Каб перамагчы гэтыя выпрабаванні, патрэбная згуртаванасць. У сучасным развіцці грамадства ў адзіночку нічога не зробіш.*

*Згуртаванасць — гэта і ёсць сіла грамадства. Аб гэтай сіле трэба памятаць, калі будзем выбіраць новыя рады. Тут трэба адкінуць на бок прыватныя адносіны да такога ці іншага кандыдата, а мець толькі на ўвазе справы грамадства, трэба верыць Фронту адзінасці народа, які вылучыў кандыдатаў найлепшых, трэба галасаваць на гэтых кандыдатаў.*

*Не трэба верыць тым адзінкам, якія паспрабуюць на грамадскай справе пячы сабе печань і будуць падгаварваць да скрэслівання кандыдатаў Фронта адзінасці народа. Гэта цёмныя тыпы і трэба іх гнаць за шыварат.*

*Толькі усеагульнай падтрымкай кандыдатаў Фронта адзінасці народа створым сабе далейшыя перспектывы гаспадарчага і культурнага развіцця.*

*Мы, беларусы, цвёрда стаім у абароне заваёў народнай улады, бо народная ўлада дала нам права людзьмі звацца, права, за якое беларусы ад вякоў змагаліся, за якое мучыліся ў санацыйных турмах і Картуз Бярозах, за якое гінулі ў фашыстоўскіх лагерах смерці і на вісельнях.*

*Родная асвета, развіццё грамадскага і культурнага жыцця, сотні настаўнікаў, інжынераў, лекараў і іншых спецыялістаў — выхадцаў з беларускай вёскі, роўнапраўнасць ва ўсіх галінах жыцця, гэта заваёвы народнай улады, і гэтым самым — нашыя, беларускія.*

*Такія шырокія ўмовы для ўсебаковага развіцця нашай грамадскасці магла стварыць толькі ўлада працоўных, якая ў сваіх закладзінах не дапускае да нацыянальнай дыскрымінацыі і гарантуе сапраўдную роўнапраўнасць.*

*Аб гэтым мы пастаянна павінны памятаць, а цяпер, падчас выбараў, калі ідзе рэч аб людзях, якія маюць рэпрэзентаваць народную ўладу, асабліва.*

*Таму ўсе беларусы, як адзін чалавек, павінны цвёрда стаць за кандыдатамі Фронта адзінасці народа, бо толькі гэтыя кандыдаты могуць рэпрэзентаваць нашыя інтарэсы, бо толькі ім можна даверыць заваёвы народнай улады.*

*УСЕ ГАЛАСУЕМ НА КАНДЫДАТАУ ФРОНТА АДЗІНАСЦІ НАРОДА!*



У Войшкі прыехало кіно. Фота — Рыбінскі

# Чаго хочам ад новых радаў нарадовых



## ІВАН ГЛІВА — СЕЛЯНІН

*— Хацеў-бы, каб рада нарадовая, — сказаў нам Іван Гліва з Храбалоў, у Бельскім павеце, — прычынілася да пабудавання дарогі ў нашай вёсцы. Можна было-б гэта зрабіць грамадскім працоўным абавязацельствам, жыхары вёскі ахвотна прыступяць да гэтай работы, толькі патрэбна арганізацыя. Дагэтуляшняя дарога ў вёсцы кожнаму з нас уелася ў косці. Калі толькі непагода, дык вуліцай не прайсці, ні праехаць, упрост дрыгва.*

## К. ЛЕНАРД — КАМЕНДАНТ МО У МІХАЛОВЕ

*Не буду многа гаварыць, бо рада ў асноўным сама ведае свае заданні. Хачу толькі звярнуць увагу, што мае зрабіць новая рада для захавання належнага грамадскага парадку. Нашым крамам, рэстарану і прадпрыемствам, пераважна характэрны бруд і непарадак. Пры радзе, між іншым, існуе санітарная камісія. Яна павінна заняцца санітарнымі справамі — назіраць за парадкам, і караць вінаватых за антысанітарныя ўмовы. Вялікую ўвагу, таксама, трэба звярнуць на чысціню вуліц і панадворкаў.*

*Маю адно асаблівае жаданне да новай рады ад імя ўсяго спакойнага насельніцтва нашай мясцовасці, каб 1 і 15 кожнага месяца забараніць прадаваць алкаголь, таму што гэта дні ў якіх рабочыя і служачыя атрымоўваюць зарплату. Нам, міліцыянерам, у такія дні цяжка справіцца з п'яніцамі.*

*Камендатура заўсёды складае справаздачы аб сваёй працы. Таму хачу падкрэсліць, каб рада не абмяжоўвалася толькі да праслухання гэткай справаздачы, але каб рабіла заўвагі і павучала нас, што практычна дагэтуль не рабілася.*

## МАР'ЯН ВАСІЛЕУСКІ — ПРАДАУШЧЫК З СЕМЯТЫЧ



*Мар'яна Васілеўскага мы сустрэлі ў яго сталовай. Ён, як і заўсёды вельмі ветліва абслугоўваў сваіх кліентаў.*

*— Мне здаецца, — адказаў Васілеўскі, — што новая рада нарадовая ў Семятычах, перш за ўсё павінна нейк вырашыць жыллёвую праблему. Шмат людзей не мае памяшканняў.*

*Другая справа, якая хвалюе жыхароў Семятыч — гэта прыспяшэнне продажы жыхарам горада, апушчанай маёмасці. Шмат будынкаў нішчэе толькі таму, што няма да іх гаспадара.*

*Культурнае жыццё ў Семятычах трэба таксама наладзіць. Ну і апошняя справа, якая мяне непасрэдна хвалюе, гэта большы надзел вяндліны ў маю сталовую. Людзі хочуць есць, а надзел малы. Брак вяндліны асабліва адчуваецца падчас кірмашу, калі ў горад прыязджае тысячы сялян. Трэба-ж даць ім есці.*



## К. ХЛЯБІЧ — СЕЛЯНІН З ВЁСКІ РЫБАКІ

*Вёска мая будзе ўключана ў Грамадскую раду нарадовую ў Юшкавым Грудзе. Жадаю, каб будучая рада ўтрымоўвала цесныя сувязі з насельніцтвам, каб радныя і працаўнікі прэзідыумаў памяталі аб тым, што не насельніцтва ім, а яны насельніцтву павінны служыць. Хачу, каб людзі не гаварылі больш, што ў нарадовай радзе ўладзіш усё, толькі за гарэлку, што працаўнікі прэзідыумаў толькі п'юць і нічога не робяць.*

*Новая рада сваёй дзейнасцю павінна даказаць, што іменна такой радай не з'яўляецца. У нас для рады ёсць многа работы. Увесці карэнныя паляпшэнні ў працы злівачнага пункта малака ў Бандарах, рамонт школы ў Рыбаках, пастаяннае зацікаўленне справай забеспячэння вясковых крамаў ГС і справа дарогі Міхалова — Ялоўка — вось, на маю думку, асноўныя заданні для рады на пачатак яе дзейнасці.*



## ФЁДАР АСА — НАСТАУНІК

*У маленькім, ды цёмным пакойчыку вясковай хаткі, змяшчаюцца два класы Пачатковай школы ў Войшках — Бельскага павета.*

*Побач вёскі, на ўзгорку пад грубым пластом снегу, стаяць муравання сцены, недаконачанага будынка новай школы. Ізноў, зразумела, чаго ад працы новай рады дамагаецца і пра што ў першую чаргу сам будзе клапаціцца кандыдат у ГРН — Фёдар Аса — настаўнік войшкаўскай школы.*

*Апрача гэтага — Фёдар Аса спадзяецца, што новая рада ўсё-ж-такі прызнае больш сродкаў са свайго бюджэту на забеспячэнне школы ў неабходныя школьныя дапаможнікі, а перадусім, што яна задбае каб школа атрымала нейкі варштацік, дзе вучні займаліся-б падчас ручных работ.*

*— Ну і трэцяя справа, — закончыў Фёдар Аса, — гэта забеспячэнне ў новай школе адпаведніх памяшканняў настаўнікам, якіх нажаль пакуль што не прадбачваецца там.*

## ВІТАЛІ ГАРБУЗ — СЕЛЯНІН З ВЁСКІ БЕЛАГОРЦЫ, САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

*Я жадаў-бы, каб нашыя ўсе радныя ў Клебанаўцах, культурна, цёпла адносіліся да сваіх выбаршчыкаў на працягу ўсёй сваёй кадэнцыі, каб наш давер забавязваў іх узняцца на вышэйшы культурны ўзровень, каб былі яны прыкладам для ўсіх сялян.*

## ЮЛЬЯН СКАВРОНСКІ — СЕЛЯНІН З ВЁСКІ ЗВЕРКІ, — БЕЛАСТОЦКАГА ПАВЕТА



*Юльяна Скавронскага мы сустрэлі на панадворку. Ён у цёмнай шопачцы разам з сынам рэзаў сечку.*

*— Чаго я спадзяюся ад новай рады нарадовай? — перапытаў ён нас. — Перш за ўсё, электрычнага святла Мо' тады не даводзілася-б так мучыцца, восе хаця-б рэжучы сечку. (А ў 20 метрах ад Зверак, праходзіць электрычная лінія).*

## НАСЦЯ КУЛІК — НАСТАУНІЦА ВЁСКА НОВЫ ВОСТРАУ, САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

*Я перш за ўсё жадаю, каб новая рада нашай грамады больш цікавілася справамі школы, цяжкасцямі настаўнікаў. А гэтых цяжкасцей на жаль ёсць не мала. Настаўнікі не маюць памяшканняў Што праўда Аддзел асветы ў Саколцы, а асабліва кіраўнік, грам. Дэніс, абяцае, што пабудуюцца вельмі хутка, так, што пачынаючы ад мая, настаўнікі не будуць жыць у гаспадароў, а перойдуць у свае выгадныя, прыгожыя будынкі. Аднак цяжка паверыць, таму, што мы мелі такія абяцанкі ў сувязі са святлом у школе. Гаварылі нам у Аддзеле асветы, што святло школа будзе мець, аднак па сённяшні дзень яго няма. Вельмі хацелася-б, каб на гэтыя справы звярнула ўвагу не толькі новая грамадская рада, але і павятовая рада.*

*Грамадскай радзе нарадовай хацелася-б пажадаць адно, каб яна лепш працавала ад старой і ніколі не забывала, як гэта было ў мінулым, паведамляць настаўнікаў аб тым, калі будуць абмяркоўвацца справы звязаныя са школай і асветай.*

## ЯНКА АСАКОВІЧ ГАСПАДАР З ВЁСКІ ДОУГАСЕЛЦЫ, САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

*Хацелася-б, каб новыя радныя заўсёды былі ў гушчыні жыцця вёскі, каб больш цікавіліся культурным жыццём вёскі. У нас ёсць вялікая школа і шмат моладзі, аднак моладзь не згуртавана і ёю ніхто не цікавіцца. Пажаданым было-б, каб новы Прэзідыум у Залессі, цікавіўся жыццём моладзі, каб дапамагаў ажывіць, сярод яе мастацкую дзейнасць.*

*І яшчэ адна справа. Неабходна, каб новая рада дапаміналася ад нашых павятовых уладаў, каб млын у Кузніцы рэгулярна працаваў, каб гаспадарам не прыходзілася ездзіць у Саколку, аж за 20 кілометраў дарогі, бо гэта ніякая прыемнасць.*

---

Успаміны старога маладзёжнага важака

МІХАСЬ НАСОВІЧ

# Незабыўныя хвіліны

Гэта было ў студзені 1947 года. Выбарчая кампанія да Сейма—у поўным разгары. Усе прагрэсіўныя сілы грамадства вялі рашучую барацьбу з мікалайчыкавай рэакцыяй. Палітычнае ажыўленне павялічвалася з кожным днём. Усё больш і больш гарадскога партыйнага актыву выязджала на вёскі, дзе разгортвалася ідэйна - палітычная работа. Ажыўлялася таксама і дзейнасць рэакцыйнага падполля. Павялічвалася колькасць бандыцкіх нападаў, узмагаўся тэрор. Становішча было вельмі складанае. Бандыцкі тэрор, у галоўным на Беласточчыне, накіраваны быў супраць актыву і беларускага насельніцтва. Гарэлі беларускія вёскі Залешаны ў Гайнаўскім і Патока ў Беластоцкім паветах, ад бандыцкіх куляў гінулі беларускія мужыкі і жанчыны — спакойныя жыхары, моладзь і маленькія дзеці. Шматлікімі лозунгамі — «Вон з Польшчы», «Уцякайце ў БССР» і г. д., рэакцыя хацела запалохаць беларусаў, а тым самым аслабіць дзейнасць партыі.

І не выпадкова выступала яна супраць беларусаў. Галоўная частка партыйных кадраў на Беласточчыне, кадраў органаў бяспекі і міліцыі, членаў маладзёжнай арганізацыі Саюза барацьбы маладых (ЗВМ) — гэта былі беларусы і беларуская моладзь.

Але не спалохалася беларускае насельніцтва бандыцкага тэрору. На заклік партыі уся актыўная частка беларускага насельніцтва паўстала супраць рэакцыйных сіл. Наступіла рашучая барацьба з ворагамі народнай дэмакратыі.

Вось у той час прышлося мне дзейнічаць сярод моладзі Бельскага павета. 1 студзеня 1947 г. я быў назначаны старшынёй Павятовага Праўлення Саюза барацьбы маладых у Бельску. ЗВМ-оўская арганізацыя ў павеце налічвала ў той час каля 300 членаў. Ужо дзейнічалі ЗВМ-оўскія гурткі ў Бельску, Гайнаўцы, Кляшчэлях, у вёсках: Аўгустова, Катлы.

Ажыўленне дзейнасці арганізацыі і накіраванне ўвагі моладзі на аказанне дапамогі партыі ў выбарчай барацьбе з мікалайчыкаўскай рэакцыяй сталася галоўнай нашай задачай.

Работу сваю я распачаў ад згуртавання актыву, каб з яго дапамогай уключыць усіх членаў у перадвыбарчую кампанію. Сумесна з Васькай Грыгорукам, Толікам Вайцековічам, Сашкай Сіманенкам і Стаськам Левандоўскім пачаткова «упарадкавалі» мы Павятовае Праўленне, правялі размовы з актыўнейшымі членамі арганізацыі. Актывісты, пакуль што, недаверліва адносіліся да нас, не верылі, што удасца нам нешта зрабіць. Тут ужо не такія хацелі ажывіць арганізацыю і нічога не зрабілі.

— Каб не было бандаў, — казалі, — дык нешта і было-б, а так усе баяцца. Аднак неўзабаве каля Праўлення пачало гуртавацца ўсё больш моладзі. Сталі ўзнімацца настроі нашых актывістаў. З кожным днём збіралася ўсё больш ЗВМ-оўцаў Праз некалькі дзён удалося нам арганізаваць і Бельску, Гайнаўцы, Кляшчэлях ЗВМ-оўскія сходы, абмеркаваць арганізацыйныя справы і даць кожнаму члену ЗВМ задачу ў перадвыбарчай кампаніі. З таго дня людзі штодзённа бачылі Геніка Германа і другіх хлопцаў, як развешвалі лозунгі і плакаты, разносілі выбарчыя бюлетэні і г. д.

Узрастаў пачын моладзі. Хваля барацьбы ахоплівала ўсё большыя кругі. Ахвярнасць многіх маладых хлопцаў і дзяўчат была нябачанай дагэтуль. Моладзь праявіла тады мноства мужнасці і адданасці справе партыі. ЗВМ-оўцы, Валодзя Карыцкі, Сашка Сіманенка, Коля Навакоўскі і іншыя днём працавалі або вучыліся ў школе, а ноччу. згуртаваўшыся ў атрады ОРМО са зброяй у руках ганяліся за бандамі, ахоўвалі выбарчыя ўчасткі.

Ніякія цяжкасці не змаглі зламаць волі гэтых адважных хлопцаў. Усе яны добра ведалі, што настаў час канчатковага разлічэння з ворагам, паказаць сілу народнай дэмакратыі, і таму актыўнасць іх павялічалася да той ступені, што калі Павятовае Праўленне пастанавіла выслаць на некалькі дзён на ўсе выбарчыя ўчасткі ЗВМ-оўскія агітацыйныя групы — пяцёркі — дык з'явіліся амаль усе члены арганізацыі. 200 ЗВМ-оўцаў працавала на ўчастках. Гэтых рухлівых хлопцаў і дзяўчат у чырвоных гальштуках можна было ў дні выбараў сустрэць амаль ва ўсіх вёсках Бельскага павета. Яны прыходзілі сюды, за некалькі дзесяткаў кіламетраў, каб мабілізаваць людзей на барацьбу з рэакцыяй.

* * *

Перамога ў выбарах у Сейм у 1947 годзе, узра

(Працяг на стар. 6).

**Да 120 гадавіны з дня нараджэння**

# Кастусь Каліноўскі

Гісторыя беларускага народа — гэта змаганне беларускіх людзей за правы да чалавечага існавання — гэта змаганне за вольнасць. Бесперапынная барацьба з прыгнятальнікамі не давала магчымасці беларусам належна ацаніць тыя гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў мінулым на нашай зямлі. Да таго і ўмовы такой ацэнкі не маглі існаваць.

I таму многа лепшых сыноў нашага народа, аддаўшых свеё жыццё ў змаганні за яго вызваленне ёсць нам, беларусам, яшчэ сёння мала знаных. Да такіх належыць і наш народны герой — Кастусь Каліноўскі.

Праўда, у апошнія часы гісторыкі, і ў тым ліку і гісторыкі беларусы, займаліся гэтым пытаннем. Але ў сувязі з тым, што жыццё і дзейнасць Каліноўскага апрацоўвана з розных пунктаў гледжання і магчыма абмежаванага ліку крыніц, у творах іх знаходзяцца недахопы і супярэчнасці.

Як-жа ў сучасны момант прадстаўляецца праўда аб Кастусю Каліноўскім?

21 студзеня (ст. ст.) 1838 года ў сям'і Сымона Каліноўскага ў вёсцы Мастаўляны, Беластоцкага павета, прыйшоў на свет Кастусь Каліноўскі. Бацька яго, некалькі кілометраў ад Мастаўлян у вёсцы Якушоўка меў невялікі маёнтак, а ў ім невялікую ткацкую фабрыку. У гэтай мясцовасці Кастусь праводзіў свае маладыя гады. Пазнаваў жыццё тутэйшых сялян. Ад 1846 года да 1855 вучышця ў школе ў Свіслачы. Тут, з усёй пэўнасцю можна сказаць, пачаў Каліноўскі ў сваёй свядомасці ўяўляць пытанні палепшання быту сялянскіх мас. Былі гэта, несумненна, першыя палёты, але пачалі яны з года ў год развівацца і дайшлі да свайго шчыта ў час прабывання Каліноўскага на універсітэце ў Петраградзе.

Служыць беларускай справе і весці барацьбу за вызваленне беларускіх сялянскіх мас ад соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, можна было шляхам пазнавання беларускага народа. Аб гэтым добра ведаў Кастусь Каліноўскі і таму не здаволіўся тымі ведамі, якія атрымаў у Свіслачы, а падаўся на вучобу на Петраградскі універсітэт.

Там, у Петраградзе, развіваў далей свае рэволюцыйна - вызваленчыя і дэмакратычныя погляды, будучы пад уплывам сучаснай рэволюцыйнай думкі, ўзгадаванай лепшымі сынамі расейскага і польскага народаў. Безумоўна і сам уносіў уклад у далейшае яе развіццё, гэта дыялектычнае права ўсяго таго, што развіваецца.

Калі закончыў універсітэт, прыбыў на бацькаўшчыну, каб тут на месцы, у сваім родным краі весці барацьбу за яго вызваленне. У сваёй рэволюцыйнай дзейнасці меў верных саюзнікаў, польскіх рэволюцыянераў. Задача, якую перад сабою паставіў, была наступная; падняць свядамасць беларускіх сялянскіх масаў, сарганізаваць сялянскі рух, накіраваць яго не толькі на калеіны соцыяльнага, але і нацыянальнага вызвалення. Гэтай справе служыла выдаваная ім



у 1862 годзе першая беларуская газета, «Мужыцкая Праўда». «Мужыцкая Праўда» вельмі ўстрывожыла царскія ўлады, не толькі таму, што яна заклікала беларускіх сялян ліквідаваць феадальную ўласнасць, але і таму, шта патрабавала карэннага змянення існуючых адносін на Беларусі.

Калі ў Літве і Беларусі быў утворан «Літоўскі Камітэт», задачай якога была падрыхтоўка да паўстання, Каліноўскі бярэ ў ім актыўны ўдзел. Сам шляхціц, вядзе ўпартую барацьбу, каб паўстанне было не справай шляхты, але сялянскіх мас. Каліноўскі не верыў шляхце.

Найбольш актыўную дзейнасць праводзіў Каліноўскі ў час паўстання 1863 г. Тут выявіліся ўсе яго таленты грамадскапалітычнага дзеяча. Нават тыя, каторыя ўважалі яго за ідэйнага ворага, не маглі не захапляцца ягонай маральнай постаццю, яго адданасцю да справы. Гэтыя асноўныя цэннасці дзейнасці Каліноўскага, былі зарукай таго, што з рэволюцыйнага камісара ў Гродзенскай губерні стаў ён галоўным кіраўніком паўстання ў Літве і Беларусі.

Цяжка пражываў Каліноўскі непаводзіны паўстання, хоць ён сам не верыў у яго поспех, верыў аднак у тое, што яно будзе мець велізарны ўплыў на актывізацыю мас беларускага народа ў будучыні. Памятаючы аб гэтым, не спыніў сваёй дзейнасці нават і тады, калі страціў вольнасць, калі знаходзіўся ў турме. Быў ён да апошняй хвіліны свайго кароткага жыцця непахільным змагаром за беларускую справу. У сваім звароце да беларускага народа пісаў: *«Вазьмі народ, за свае чалавечыя і народныя правы, за сваю веру, за сваю зямлю родную!».*

ФР. БЕРНІКОВІЧ

МІХАСЬ МАШАРА

# Кастусь Каліноўскі

*(Урывак з паэмы)*

Паўстанне згашана, зламана,
лікуй і цешся, Мураўёў:
табой заглумлена, стаптана
надзея вольнасці ізноў.

Пад цяжкім ботам мураўёўскім
замоўкла Беларусь і Польшч,
і сам на'т грозны Каліноўскі
ужо цару не страшны больш.

Пануры мур — астрог... і краты
у лёху цёмным і глухім,
як леў зняволены, «дыктатар»
сядзіць, закуты ў ланцугі.

О лёхі!
Як цяжка чуць сябе між вамі
і знаць, што згінеш тут адзін
тады, як сонца над палямі,
прастору шыр і неба сінь.

Чаргой праходзяць успаміны
у сумных думках змагара·
— Не страшна згінуць...
Трэба — згіну.

Я знаю — гіну не дарма
Паўстане край мой,
край любімы...
Яму я волю абвясціў.
Цябе, народ,
цябе, радзіма,
як я,
ніхто так не любіў.

I веру я,
што голас сына,
якога кат вядзе на крыж,
прайдзе, як гром, па ўсёй краіне
і ўскалыхне нямую ціш.

Няхай ты спіш яшчэ, народзе,
няхай пакутай і цямрой
твой кат у дзікім карагодзе
яшчэ глуміцца над табой.

Але ні гора, ні няволя,
што ў хаце сталі на папас,
не згасяць зор тваіх ніколі,
што ткуць твой шлях у прышлы час.

I вы, муры маёй вязніцы,
вы — сведкі крыўды і пакут,
вас хутка крыллем навальніцы
змяце з зямлі працоўны люд.

# Незабыўныя хвіліны

*(Працяг са стар. 3.)*

давала ўсіх прагрэсіўных людзей у Польшчы. Выбарчая кампанія павялічыла небывалую актыўнасць, якую трэба было ўмацаваць. Становішча было вельмі выгоднае. Перамога ўмацавала ўпэўненасць у сілу народнай дэмакратыі, паказала ўсяму павету ЗВМ-оўцаў і іх працу. Мы пастанавілі неадкладна выкарыстаць гэты момант і павялічыць рады арганізацыі з 300 да 1.000 членаў, прыцягнуць у ЗВМ найлепшую моладзь павета. Задача нялёгкая і выканаць яе можна было толькі пры дапамозе партыі і пры поўнай мабілізацыі ўсяго актыву.

Вось і пачалася кіпучая дзейнасць. Павятовы Камітэт партыі загадаў усім партыйным арганізацыям аказаць нам усебаковую дапамогу. У работу над разбудовай ЗВМ уключыў усіх маладых членаў партыі. Павятовае Праўленне паклікала шматлікі актыў і прызначыла яму ўчасткі работы. Амаль кожным вечарам з Бельска, Гайнаўкі і Кляшчэляў выходзілі групы ЗВМ-оўцаў і накіроўваліся ў вёскі, дзе праводзілі сходы моладзі, арганізавалі ЗВМ-оўскія гурткі, гурткі мастацкай самадзейнасці, клубы і г. д.

Напрамкам падарожжа груп сталіся, у першую чаргу, беларускія вёскі, дзе моладзь была прыхільнейшая, а ідэя ЗВМ больш ёй адпавядала чым іншых арганізацыяў. Наладзіўшы работу выбраўся я і сам на вёскі.

Санямі і пехатою, у мароз і пургу, па пояс у снягу, хадзіў ад вёскі да вёскі, збіраў сходы моладзі, выступаў з гутаркамі і дакладамі і сумесна з вясковымі хлопцамі і дзяўчатамі марыў аб лепшым жыцці маладых людзей. Моладзь ахвотна ўступала ў рады ЗВМ, накрэслівала план работы і распачынала дзейнасць. Такім чынам, праз некалькі дзён, удалося мне арганізаваць ЗВМ-оўскія гурткі ў вёсках Райск, Леўкі, Зубава, Кнаразы, Плёскі, Дэніскі і многіх іншых. Некаторыя гурткі былі даволі шматлікія, напрыклад, у Плёсках, у адзін вечар, у ЗВМ уступіла 45 членаў, у Кнаразах — 30 членаў. Новых членаў і новыя гурткі арганізавалі і іншыя актывісты. У Нарве тав. Пятручук сарганізаваў некалькі гурткоў і каля 30 членаў, у Гайнаўцы тав. Лапуцкі са сваім гуртком прыняў 180 новых членаў. ЗВМ вырастаў у масавую арганізацыю. У канцы сакавіка 1947 года ў ЗВМ уступіў тысячны член. Гэта быў малады настаўнік з Белавежы — Віктар Вашкевіч.

28 сакавіка, у Бельску адбыўся ўрачысты з'езд ЗВМ, дзе быў уручан 1.000 ЗВМ-оўскі білет.

Але арганізацыя не толькі павялічвала свае рады. Побач з павелічэннем радоў арганізацыі мы ставілі сабе задачу з самага пачатку зрабіць актыўнымі ЗВМ-оўскія гурткі. У гэтай мэце мы імкнуліся ставіць перад ёю канкрэтныя і зразумелыя ёй задачы, і зацікавіць яе перабудовай жыцця на новы лад. А моладзь чакала на гэта. Яна не хацела жыць пад пагрозай бандаў, не хацела жыць па-стараму. Вось чаму там, дзе паўставалі ЗВМ-оўскія гурткі, там і паўставалі атрады ОРМО — велізарная ў той час пагроза для бандаў.

Паўставалі шматлікія гурткі мастацкай самадзейнасці. Моладзь нярэдка і проста ў сялянскіх хатах, арганізавала клубы, будавала танцавальныя пляцоўкі, высаджвала дарогі дрэвамі, дапамагала беднякам ў земляробстве і т. п. Непрымірымая рабацьба з ворагам народна - дэмакратычнага ладу і ахвярная праца ў будаўніцтве — вось, што было дэвізам ЗВМ-оўцаў.

У барацьбе і працы раслі новыя кадры барацьбітоў за соцыялізм у нашай краіне. Арганізацыя дапамагла многім хлопцам і дзяўчатам знайсці сваё месца ў грамадстве. Многія з іх, некалі простыя, вясковыя хлопцы, сталі сёння знатнымі людзьмі. Сярод іх ёсць цяпер інжынеры і дактары, кіраўнікі прадпрыемстваў і партыйныя дзеячы, а нават маладыя вучоныя.

Усе знаюць Колю Тураўскага, вясковага хлапчука з Плёскаў — цяпер віднага профсаюзнага дзеяча. Многія ў Бельску знаюць Васіля Белаказовіча і Валешку, — яны цяпер навуковыя супрацоўнікі Вышэйшых Навучальных устаноў. Васька Грыгарук, Кавальскі з Гайнаўкі і іншыя — гэта цяпер партыйныя дзеячы. Дзесяткі і сотні моладзі вышла з вясковых хат і запоўніла шарэгі міліцыі, афіцэрскай кадры, адміністрацыйных і партыйных работнікаў.

Вядома, не ўсё яно прыходзіла так лёгка. Трэба было перамагчы мноства цяжкасцей, недаесць, недаспаць, цярпець холад, невыгоды і надзвычай многа працаваць. Аднак самае асноўнае, што праца гэта дала рэзультаты, якія можна выказаць у некалькіх словах — ЗВМ выхаваў загартаваных людзей, дапамог партыі будаваць новае жыццё і таму аб тых хвілінах нельга ніколі забыць.

МІХАСЬ НАСОВІЧ




# Выбарчыя справы

*Сабраліся нашы хлопцы ў вясковай школе, каб пагутарыць аб выбарчых справах.*

*— Што-ж гэта робіцца ў нас — не магу сабе ўявіць, усяго 10 працэнтаў насельніцтва спраўдзіла выбарчы спісак. Давайце супольна абмяркуем, што зрабіць, каб выбары прайшлі, як кажуць, у сту працэнтах — звярнуўся да прысутных старшыня ячэйкі сялянскай моладзі.*

*— Каб выбары адбываліся вечарам—тады-б можна бясплатны кіносеанс зрабіць — сказаў Антошка.*

*— Даць па чарцы самагонкі, то і хворы прыбяжыць у выбарчы ўчастак — падказаў Трахім.*

*— Як што прыдумаць — то цікавае, інакш людзі не прыдуць — дадаў Вацук.*

*— Трасца на яго! Так далёка не даедзем, выбары павінны праходзіць па-цвярозаму, свядома, адзначыў старшыня. У той час адчыніліся дзверы і ўвайшлі — бабка Малання, дзед Максім і дзед Антып.*

*— Па якой справе грамадзяне? Сход у нас закрыты — папярэдзіў старшыня ўваходзячых.*

*— Сапраўды закрыты? А дзверы то, адчыненыя былі-ж — іранічна заўважыў дзед Максім, абапіраючыся на сукаватую палку.*

*— Мае-ж вы саколікі, унучанькі, не выйдзеце вы з гэтага закрытага схода пакуль не адкрыецеся перад намі. Старшыня скрывіўся, быццам яму зуб забалеў.*

*— Засядацелі, падрыхтуйцеся якары падымаць і адшвартоўваць. Прыдзецца вёску прачасаць і баб пазбіраць — закамандаваў дзед Антып, былы марак з крэйсера «Быстры».*

*— Выбачайце, у нас адбываецца сход — сказаў Вацук.*

*— А ты цішэй, Вацук — спахапілася бабка Малання — твая маці — мая ўнучка. Збірайся вось, ды ідзі маці паклічаш, потым Марыю, што жыве каля выгана, Сцешу — унучку, Пелагею, маю свякроў, Аляксандру — маю дваюрадную сястру, Вольгу — старэйшую дачку і Наталлю — малодшую. Вацуку абавязкова трэ' было даць трох дапаможнікаў — сам не здолеў-бы абыйсці ўсіх сваякоў бабкі Маланні.*

*Пасля таго дзед Максім стаў называць сваіх сваякоў. Успомніўшы ўсіх, на заканчэнне сказаў: « цягніце іх, мы ім тут пра выбары скажам».*

*— Адкуль вы ведаеце, што мы сабраліся па справе выбараў? — з цікаўнасцю перапытаў старшыня.*

*— Закончыць пабочныя размовы, узняць вымпел, поўным ходам, наперад! Мужык — крэйсер, а жанчына — руль. Куды руль павярнецца, туды і крэйсер нясецца, — рэзка, як-бы каманду падаючы, прамовіў дзед Антып.*

*Як далей пайшлі справы — не ведаю, не расказвалі мне, ано ведаю, што ў 10 гадзін раніцы выбары ў вёсцы закончыліся. Адзін толькі Якім, якога конь капытам выцяў, галасаваў у хаце.*

*Аказваецца, што ў нашым грамадскім жыцці і старэйшыя таксама адыгрываюць нямалую ролю.*

Дзядзька Лявонь











**Без слоў**

## Бацька цыгана

— Цыгане, твайго бацьку злавілі!
— Дзе?
— У каморы.
— Вось дзіва! У каморы кожнага зловіш! А вы яго ў поле пусціце, ды тады лавіце!

## Rabina — rabinaczka







1. Rabina-rabinačka,
Rabina maja! *)
Čamu ty, rabinačka
Rana atćwiła?

2. Dziaŭčyna-dziaŭčynačka,
Dziaŭčyna maja!
Čamu ty, dziaŭčynačka,
Zasmuciłasia?

3. Oj, nia ŭ tuju poračku
Na świet ja pryšła.
Maci, nie padumaŭšy,
Zamuž addała.

4. Dy u tuju wiosačku,
Nie ŭ wiadomuju,
Ŭ čužuju siamieječku
Nie ŭ wiasiołuju.

5. Dalniaja staronačka
Biaz wietru sušyć.
Nia rodny tatulečka
Biez winy žuryć.

6. Wo-j žywu hadoček ja
Žywu i druhi,
A na treccim hodziku
Zanudziłasia,

7. K mamačce u hościk
Zachaciełasia,
Pa rodnym tatulečku
Zatužyłasia

8. Abiarnusia ptušečkaj
Šeraj ziaziulaj
Palatu ja mołada
K mamačce swajej

9. Oj padu, oj siadu ja
Ŭ wišniowym sadu!
Zapiaju tam piesieńku
Žałasnu swaju

10. Ja dumała, dumała,
Što mamačka śpić,
Ažno maja mamačka
U sianioch stajić,

11. Dy budzić niawiestačak
«Łastački maje!
«Pasłuchajcie ptušečku,
«Što ŭ sadzie piaje

12. «Što heta za ptušečka
«Žałasna piaje?
«Atkul heta ptušečka
«Pryčyty biare?

*) Zamiest pracialu apošniaha składa u druhim radočku kožnaj zwarotki dwumia liknimi notkami, piajuć pad hetymi dwumia notkami cito chore—«hej!»

## Растлумачыла

Аднойчы Ліда прыйшла са школы моцна ўсхваляваная.

— Мамачка — крычыць ужо з парога — наш настаўнік сёння расказаў штосьці вельмі цікавае.

— А што-ж ён вам расказаў? — перапытала маці.

— Настаўнік расказаў, як наша зямля кружыцца навокал Сонца.

— Хлусня, ён так расказваў, бо яму за гэта грошы плацяць. Падумай толькі, каб Зямля сапраўды круцілася — то з нашага калодзежа вада вылілася-б.

## На пошце

— Ваш ліст цяжкі, — трэба яшчэ дзве маркі прыклеіць.

— Ну, паночку, тады ён будзе яшчэ цяжэйшы.

## ЭПІГРАМА

КРЫКЛІВЫ

— Не аддам ім збожжа і мяса, —
Ён крыкнуў на сходзе басам.

ВІКТАР СЦЯПАНЮК
Павілавічы

## АГАФОН АБРОТКА ПРЫПАМІНАЕ

Словы — ВІНЦУК ГРАБОВІЧ

Рысункі — АГЛАЯ АРТЫСЕВІЧ




*Малады ты ці стары*
*Сёння йдзі на ВЫБАРЫ!*
*Каб аб гэтым кожны ведаў—*
*Сам спяшай, і клікч суседаў.*

*Ужо Мірон паклікаў Галю,*
*Міхасёк вядзе Наталю —*
*Хведар з Любаю іх гоніць.*
*(Вельмі-ж брыдка ПРАВАРОНІЦЬ).*

*На бялюсенькім снягу,*
*Паставалі ўсе ў чаргу.*
*Чуці знізу і згары:*
*Дружна выграць выбары!*

*Йдуць да урны дзядзькі, цёты,*
*ГАЛАСУЮЦЬ усе з ахвотай.*
*Сёння ў нас вялікае свята*
*ВЫБІРАЕМ КАНДЫДАТАЎ!*

УЛ. ГАЙДУК

## Марыся

Ой, донька Марыся
У дзядзькі Сцяпана,
Ой і ганарыўся
Донькаю каханай.

Бо ці затанцуе,
Ці то ўсміхнецца,
Усіх ачаруе,
Усё так ёй кладзецца.

Ой, Марыся, кветка,
Умееш танцаваці,
Але ў поле рэдка
Ходзіш працаваці.

Па забаве спіш ты,
Маці абед варыць.
Ціхенька ступае,
Скваркі доньцы скварыць.

Спіць Марыся цудна,
Пад поўдзень бярэцца.
Сяброўка Параска
У вакно смяецца.

Гэй, Параска, цішэй
— Маці адазвецца —
Бо шчэ доньку збудзіш
Шчэ возьме й прачнецца

Ужо і па-палудні,
Ідуць бульбу садзіці
Пайшла сама маці,
Няможна будзіці!

А Марыся ўстала,
Села на краваці
І кусіска сала
Стала аплятаці.

Садзіць маці бульбу,
Ад працы аж прэе,
Ды думае з болем:
Мо' донька хварэе?

Штось — думае маці —
Донька нездарова,
Трэба ратаваці,
Патрэбна замова

Мо' святой вадою
Доньку пакрапіці,
Каб злое й ліхое
Ад яе «адбіці»?

Ой, цётка, настрой
Як чары адбіці —
Трэба вашу доньку
Кіем «пасвянціці».